# Сябры з-за заходняй граніцы

Візіт партыйна - урадавай дэлегацыі ГДР, узначаленай I Сакратаром ЦК СЭД Вальтэрам Ульбрыхтам і наместнікам прэм'ера Бруна Лейшнерам, мае перад усім палітычны характар.

Польшчу і Германскую Дэмакратычную Рэспубліку аб'ядноўваюць супольны строй і супольная мэта — пабудова сацыялізма. ГДР з'яўляецца першай у гісторыі нямецкага народа рабоча - сялянскай дзяржавай, здзяйсняючай марксісцка - ленінскія прынцыпы ў міжнародных адносінах. Гэта азначае, што на захад ад Польшчы ўжо 14 год існуе дзяржава, для якой чужымі з'яўляюцца рэвізіяністкія і рэваншысцкія імкненні, выклікаючыя ў мінулым няспынныя антаганізмы паміж двума народамі. Адносіны паміж Польшчай і ГДР ва ўсіх галінах самыя найлепшыя. Дзве дзяржавы з'яўляюцца членамі абароннага Варшаўскага пакту, гарантуючага бяспеку і мір у Еўропе. Дзве дзяржавы належаць да Савета ўзаемнай эканамічнай дапамогі, асноўнай мэтай якога з'яўляецца паскарэнне гаспадарчага развіцця сацыялістычных краін, абапіраючагася на шматгадовым планаванні і рацыянальным выкарыстанні ўласных рэсурсаў. Менавіта ў рамках Савета дайшло ўжо да спалучэння намаганняў Польшчы і ГДР у такіх галінах, як суднабудаўнічая, матарызацыйная і хімічная прамысловасці. Трэба спадзявацца, што візіт кіраўнікоў ГДР у Польшчы акажа ўплыў на паскарэнне працэсу ўзаемнай кааперацыі і гандлёвага абмену.

Апрача гэтых мэт, Польшчу і ГДР аб'ядноўвае шмат супольных імкненняў, якія стаяць на парадку сённяшняга дня. Маем, напрыклад, супольны погляд, якім спосабам трэба вырашыць пытанне Заходняга Берліна і цэлай Германіі. Згодна з выступленнем В. Ульбрыхта на апошнім з'ездзе СЭД лічым, што, каб дасягнуць паразуменне па нямецкаму пытанню, трэба падпісаць мірны трактат з дзвюма нямецкімі дзяржавамі і распачаць размовы аб унутраных справах паміж прадстаўнікамі ГДР і ФРГ. ГДР і Польшча перакананы ў тым, што спрыяльны клімат для такіх размоў можа стварыць устанаўленне безатамнай зоны ў Цэнтральнай Еўропе. Пытанне ўтварэння такой зоны, ахопліваючай сабою дзве нямецкія дзяржавы, Польшчу, Чэхаславакію і Венгрыю, становіцца зноў актуальным у сувязі з XVIII сесіяй ААН, на якой яно будзе абмяркоўвацца.

Зараз якраз набліжаецца нацыянальнае свята нашых сяброў — 14-ая гадавіна заснавання рэспублікі. З гэтага выпадку трэба ўспомніць аб найбліжэйшых эканамічных поспехах ГДР.

ГДР, нягледзячы на тое, што акрамя бурага вугалю і калійнай солі не мае, уласна кажучы, ніякіх мінеральных багаццяў, належыць да краін, якія маюць найлепш развітую прамысловасць. Гэтая дзяржава з'яўляецца сусветнай магутнасцю ў такіх галінах, як здабыча бурага вугалю, вытворчасць электраэнергіі і выраб прадуктаў з хімічнага сінтэзу. На працягу апошніх трох гадоў прырост прамысловай вытворчасці ў ГДР вагаўся паміж 6—8% і быў у сярэднім вышэйшы, чымсьці ў ФРГ. Аб матэрыяльным узроўні насельніцтва ГДР сведчыць найлепш вытворчасць і продаж шматлікіх вырабаў. Напрыклад, у мінулым годзе выпушчана 72 тыс. легкавых аўтамабіляў, амаль 100 тыс. матацыклаў і матаролераў, амаль 200 тыс. пральных машын і столькі ж халадзільнікаў, паўмільёна тэлевізараў і звыш мільёна радыёпрыёмнікаў. Выдатна палепшылася забеспячэнне насельніцтва харчовымі прадуктамі, што з'яўляецца вынікам развіцця вытворчых кааперацываў, ахопліваючых амаль усе вёскі. Калі яшчэ тут дадамо амаль падвойны ўзрост заробкаў насельніцтва ў ГДР на працягу мінулых 13-ці год пры 83% узросце пакупной здольнасці маркі, дык будзем мець поўнае ўяўленне аб шпаркім і ўсебаковым развіцці гэтай дзяржавы.

Дасягненні Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі цешаць нас, таму што гэта дасягненні нашых сяброў.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# За вышэйшы ўзровень нашай дзейнасці

(Працяг са стар. 1)

Задачай членаў БГКТ з'яўляецца супрацьдзеянне адмоўным з'явам, у якіх бы яны формах не праяўляліся, а таксама намаганні і клопаты аб чысціні радоў нашай арганізацыі. Усё гэта будзе садзейнічаць умацаванню ідэйнага зместу і аўтарытэту Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

Гурткі БГКТ у значнай большасці шырока прапагандуюць беларускае слова мастацкімі аматарскімі выступленнямі. Самадзейны рух сярод беларускага насельніцтва добра развіваецца. У гэтым вялікая заслуга нашых ахвярных настаўнікаў, якія з'яўляюцца арганізатарамі культурнага жыцця вёсак. Прыемная гэта з'ява. Дрэнна толькі тое, што бедны рэпертуар у нашых драмгуртках. Змест паасобных п'ес мала мае выхаваўчых элементаў, пераважна не звязаны з нашай рэчаіснасцю, не ахоплівае сучасных праблем нашага жыцця і таму палітычна не заангажаваны і мала выхаваўчы.

У сувязі з гэтым вялікую прыслугу аматарскаму руху ў беларускіх вёсках магло б аказаць літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», якое існуе пры Галоўным праўленні БГКТ. Спадзяваемся, што нашы літаратары, а ёсць сярод іх таленавітыя людзі, ажыццяўляючы пастановы XIII Пленума ЦК ПАРП, будуць раскрываць у сваіх творах вялікасць нашага часу, вялікасць перамен, прыгажосць дум будаўнікоў бяскласавага грамадства, што ўзбагацяць яны высокаідэйнымі выхаваўчымі творамі і рэпертуар сцэнічнага слова.

Важнае месца ў сістэме выхавання новага чалавека займае прэса. Гэта ўдарная сіла ідэалагічнага фронту. Нам у гэтым выпадку прыходзіцца гаварыць аб часопісе «Ніва». Не гледзячы на свае дасягненні, «Ніва» грэшыць яшчэ многімі недахопамі. Яшчэ замала выхоўваем мы людзей на рэвалюцыйных традыцыях, замала паказваем цікавых герояў штодзённага жыцця, іх высакародныя пачуцці ў рэалізацыі пастаноў нашай партыі і нашага ўраду. Бываюць матэрыялы слабыя, з бяззубай крытыкай, без канструктыўных прапаноў. XIII Пленум ад гэтага ідэалагічнага ўчастка вымагае большай палітычнай інтэнсіўнасці, што бясспрэчна будзе садзейнічаць і лепшаму ўплыву газеты на сваіх чытачоў.

Пры ГП БГКТ існуе лектарская група. Даклады і гутаркі з насельніцтвам таксама маюць выхаваўчыя элементы. З гэтай справай не было ў нас найлепш. Падбор лектараў не заўсёды быў удаланы, а змест іх дакладаў мала выхаваўчы. Згодна з пастановамі XIII Пленума ЦК ПАРП і ў сувязі з тым, што набліжаемся да XX гадавіны народнай Польшчы і IV З'езда ПАРП, ГП БГКТ робіць намаганні, каб лектарская група была на ўзроўні сваіх абавязкаў.

Уся наша дзейнасць павінна канцэнтравацца на ідэйна-выхаваўчай працы, каб БГКТ выхоўвала сваіх членаў у духу патрыятызму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізма, у духу марксізма-ленінізма, каб наша арганізацыя, выконваючы ўзложаныя на яе абавязкі, добра дапамагала нашай партыі ў фармаванні сацыялістычнай свядомасці сваіх членаў.

У гэтым артыкуле закрануты толькі некаторыя справы. А ёсць іх вельмі многа і патрабуюць яны шырокай абмяркоўкі на старонках «Нівы», а таксама на набліжаючымся II пленуме ГП БГКТ.

МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ
Старшыня ГП БГКТ

# Хроніка

■ 17 верасня ў Нью-Йорку пачаліся абрады XVIII Асамблеі ААН.

■ 20 верасня ў Беластоку адбыўся Пленум КВ ПАРП. Пленум абмеркаваў рэалізацыю пастановы IX ваяводскай справаздаўча - выбарчай канферэнцыі ў справе разбудовы і ўзмацнення партыйнай арганізацыі Беласточчыны. У арганізацыйнай частцы Пленум выбраў сакратарамі КВ ПАРП Сяргея Рубчэўскага і Вітальда Мікульскага, а таксама членам Бюро КВ ПАРП — Уладзіслава Юшкевіча.

■ 15 верасня ў час рэферэндума ў Алжыры прэзідэнтам Алжырскай рэспублікі быў выбраны Ахмед Бен-Белла.

■ 21 верасня прыехаў у Маскву новавызначаны пасол ПНР у СССР Эдмунд Пшчулкоўскі.

■ 15 верасня белыя расісты ў горадзе Бірмінгем (стан Алабама ЗША) кінулі бомбу ў негрыцянскі касцёл. Загінулі 4 дзяўчынкі.

■ 20 верасня ў Беластоку адбылася нарада старшынь камісій асветы ВРН з усёй нашай краіны. На нарадзе ўдзельнічалі: сакратар Дзяржаўнай Рады ПНР Юльян Гарадэцкі, міністр асветы Вацлаў Туладзецкі і наместнік старшыні сеймавай камісіі асветы і навукі дацэнт Юзэф Квятэк.

■ 21 верасня ў Ломжы адбылося ўрачыстае адкрыццё культурна - асветнага года 1963/64. На ўрачыстасці ўдзельнічаў наместнік міністра культуры ПНР Тадэуш Заорскі.

■ 15 верасня ў Беластоку адбылася нарада актывістаў Таварыства свецкай школы. Удзельнікі нарады (старшыні, сакратары і скарбнікі павятовых праўленняў таварыства) выслухалі даклад на тэму: «Галоўныя напрамкі дзейнасці ТСШ у святле пастаноў XIII Пленума КЦ ПАРП».

■ 14 верасня пасля канцэртаў у СССР прыехаў у Беласток рэпрэзентацыйны цырк Польшчы «Арэна».

# Спорт

Мінулы тыдзень прынёс футбольны матч Польшча — Турцыя. Расчаравалі нашы форварды, якія, нягледзячы на значную перавагу ў полі, не маглі забіць у вароты туркаў ніводнага мяча. У выніку — нічыя.

З выпадку гэтага матча паўзаваў першы эшалон. У другім — бai ішлі нармальным ходам. Апошні тур не прынёс тут прыкметных змен. Карпаты, якія займаюць 10 месца, дзеліць ад лідэра, Кракавіі, толькі 3 пункты.

У беластоцкай лізе наадварот. Пасля высокай перамогі (4:0) лідэра (Мазур) над віцэлідэрам (Гусар) першы выразна адарваўся ад другога і да канца круга павінен мець спакойны быт, бо сапернікі, з якімі будзе гуляць, далёка адстаюць ад элчан.

Прыемны сюрпрыз сваім сімпатыкам зрабіла гайнаўская Пушча, якая паўтара тыдня таму здабыла кубак Польшчы на ваяводскай ступені. А гулялі гайнавяне не абы з кім — з лідэрам III лігі, Мазурам Але, здаецца, на гэтай перамозе і закончыцца кубкавы марш Пушчы. Цяжка ўцяміць, каб яна магла ўзяць наступны бар'ер — Люблінянку (II ліга). Аднак, як бы там не было, «А»-класавая Пушча робіць фурор і хіба на другі год забяспечыць сабе месца ў III лізе.

Аут




Групенфюрэр Упіц быў інфармаваны правільна. Самалёты, якія праляцелі на ўсход ад Карлслуста, былі савецкімі бамбардзіроўшчыкамі. Яны ішлі курсам на паўночны захад.

У страі баявых машын знаходзілася пяць транспартнікаў. Абмінуўшы Карлслуст, група пайшла над аўтамабільнай шашой Берлін — Гамбург. Але не Гамбург быў яе галоўнай мэтай. Яна выконвала спецыяльнае заданне.

Прыкладна на трыццатым кіламетры ад Карлслуста з зямлі ўзвілася белая ракета. Група плаўна завярнула на сігнал. Унізе замігацеў ліхтарык. Самалёты зменшылі газ, і з транспартных машын высыпаліся парашутысты. Гэта быў другі дэсантны атрад з групы генерала Лыкава.

Адзін за другім апускаліся парашутысты. Воіны былі ў форме нямецкіх салдат і афіцэраў. Аднак

258

гэта не збянтэжыла сустракаўшага іх маёра Перцава. Першы, каго ён убачыў, быў палкоўнік Рыбін, адзеты ў мундзір маёра вермахта. Разведчыкі абняліся.

— Якія абставіны? — спытаў Перцаў.

— Яшчэ не ведаю. — Рыбін павярнуўся, паклікаў: — Коржаў!

З цемры вынырнуў афіцэр. На яго мундзіры былі пагоны гаўптмана.

— Знаёмцеся, — Рыбін прадставіў разведчыкаў. Затым ён загадаў Коржаву разгарнуць радыёстанцыю.

Навокал, у цемры, адчуваўся няспынны рух. Быў чутны шоргат крокаў, прыглушаныя галасы.

Вярнуўся Коржаў.

—Рацыя да працы гатова, таварыш палкоўнік!

Ён правёў Рыбіна і Перцава ў маленькую лагчынку, дзе быў устаноўлены перадатчык. Шкала настройкі мякка свяцілася. Ля апаратуры вазіліся двое радыстаў.

— Выклікайце, — загадаў Рыбін.

Радыст застукаў ключом, перайшоў на прыём і пачаў запісваць. На паперы раслі слупкі лічбаў. Калі першы лісток быў запоўнены, Коржаў узяў яго, сеў збоку і, падсвечваючы сабе ліхтарыкам, пачаў расшыфроўваць. Рыбін прачытаў частку радыёграмы. Генерал Лыкаў паведамляў: калона грузавікоў выйшла з Гамбурга ў дваццаць адну гадзіну, у Карлслусце будзе апоўначы.

—Напэўна, будзе ісці гэтай дарогай? — спытаў Коржаў. — Іншай няма?

259

— Была, — адказаў Перцаў. — Была дарога, дзве бамбёжкі вывялі яе са строю.

Радыст закончыў прыём, Коржаў хутка расшыфраваў другую частку тэлеграмы. Паведамлялася: першы атрад праз гадзіну прыступае да аперацыі.

Гутарка ішла аб дэсанце каля аэрадрома.

У канцы шыфроўкі было папярэджанне: ля сховішча знаходзіцца маёр Керымаў, захоўваць строгую асцярожнасць.

Рыбін павярнуўся.

— Таварыш Коржаў, папярэдзьце дэсантнікаў: што б не здарылася, ні аднаго цывільнага не рушаць. Вытлумачце, што сярод ворагаў — наш разведчык.

Коржаў пайшоў.

— Не турбуйцеся, Арэст Іванавіч, — сказаў Перцаў. — Я спераду буду, як убачу яго, прыкрыю, каб усё было ўпарадку...

*

А Керымаў у гэтыя мінуты адпачываў. Ён ляжаў, выцягнуўшыся ва ўсю даўжыню ложка, заламаўшы рукі за галаву. Зброю ён агледзеў і праверыў, план дзеяння абдумаў. Цяпер, перад заключным этапам аперацыі, трэба было набрацца сіл. Напружанне гэтых месяцаў, асабліва дзён, праведзеных у Карлслусце, не прайшло бясследна. Ён змарнеў, вочы пачырванелі, глядзелі змучана. Вось бы задрамаць гадзінку. Але ці ж заснеш, калі нервы нацягнуты да канца і ў галаве — тысячы тры-

260

# ПА РОДНЫХ МЯСЦІНАХ

Вёска Коматоўцы, Беластоцкі павет.

Фота: Л. МАЙСЕЮК

# УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ — прыяцель славянскага свету

29 верасня мінае 140 год з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі. Прысвячаючы сёння з гэтай нагоды нашую ўвагу выдатнаму польскаму паэту - дэмакрату, хочам закрануць менш вядомы бок яго дзейнасці як гісторыка літаратуры. Падставы да гэтага дае аб'ёмісты рукапіс Сыракомлі, праўда, не закончаны, гісторыі польскай літаратуры, які захоўваецца ў Вроцлаве ў зборах бібліятэкі «Асалінеум». Рукапіс налічвае 294 старонкі. Знаёмства з ім кідае пэўны свет на погляд паэта на гістарычную ролю вялікіх славянскіх асветнікаў — Кірылы і Мефодзія. Сёлета ж адзначаем 1100-годдзе стварэння імі славянскай і балгарскай пісьменнасці, і таму гэтае пытанне зараз асабліва нас хвалюе.

Ул. Сыракомля добра разумеў значэнне дзейнасці салоніцкіх братоў, ажыццяўляючых для славян вялікую справу, якой было распаўсюджанне славянскай пісьменнасці. Трэба ж ведаць, што кнігі, перакладзеныя і напісаныя Кірылам і Мефодзіем, залажылі аснову пад узнікненне славянскіх літаратур. Паэт акрэслівае славянскую мову як «прыгожую і багатую», якую браты - асветнікі хацелі ўжыць у багаслужэнні. Аўтар рукапісу з сумам адзначае, што лацінскае духавенства перашкодзіла ім у гэтых пачынаннях. Ён нават прыгадвае фрагмент з лісту папы Іаана VІІ да Мефодзія, які ў той час з'яўляўся архіепіскапам Паноніі. Галава рымскай царквы абрушваецца на дзейнасць вялікага асветніка.

«— Мы чулі, — пісаў Іаан VІІ, — што адпраўляеш богаслужэнні на варварскай, г.зн. славянскай мове. Таму ў лістах, якія мы, карыстаючыся пасрэдніцтвам біскупа Паўла, табе перасылаем, забараняем, каб ты адпраўляў на гэтай мове службу божую, а ўжываў лацінскую або грэчаскую мову, так як гэта робіць Божы Касцёл ва ўсім свеце».

Ул. Сыракомля піша далей, што ўсе намаганні Мефодзія прапалі дарам, што загінуў таксама яго неацэнны пераклад Евангелія, і лацінская мова засталася літургічнай мовай цэлай Заходняй Славяншчыны. Як вядома, дзейнасць Мефодзія ў першапачатковым перыядзе паспяхова развівалася. Пазней аднак асветніка кінулі ў турму, а на кнігі яго была наложана забарона. Падвяргаліся ганенням і вучні Мефодзія. Сыракомля сцвярджае, што рымскія папы баяліся ўвядзення іншых моў у царкоўны абыход, каб не пачала пашырацца нейкая ерась. Аднак тут, зразумела, не толькі ў тым была справа. Кірыл і Мефодзій, выступаючы супроць лацінскай і грэчаскай моваў, ратавалі таксама за тое, каб народы мелі сваю ўласную пісьменнасць, а гэтым самым шырокія слаі іх далучыліся да культуры.

Другія крыніцы аб Уладзіславе Сыракомлі гавораць, што кранаў ён таксама і гісторыю беларускай літаратуры. Вядомымі ўжо сталі выказванні паэта аб яе лепшым прадстаўніку ў XІX ст. Вінцуку Дуніну-Марцінкевічу на старонках польскага друку. Сучасныя беларускія літаратуразнаўцы згодна падкрэсліваюць значную вагу гэтых выказванняў. Голас Сыракомлі, узняты ў абароне беларускай творчасці Дуніна - Марцінкевіча, якая востра трэціравалася рознымі цемрашаламі таго часу, памог у паспяховым развіцці літаратурнай дзейнасці аўтара «Гапона».

Аб тым, што і мінулае беларускай літаратуры хвалявала польскага паэта, сведчыць, напрыклад, яго выступленне ў 1861 годзе ў «Кур'еры віленскім». Тут Сыракомля высока ўзнімае значэнне беларускай мовы, якая, як адзначае, «мела сваё багатае мінулае». Далей паэт прыгадвае рад гістарычных фактаў, як выступленне на беларускай мове кашталяна Івана Мялешкі на польскім сейме перад Сігізмундам ІІІ ці пісьмо Цыпрыяна Камуняка да смаленскага ваяводы Філіпа Абуховіча. Ул. Сыракомля падкрэслівае, што беларуская мова ўжывалася ў дыпламатычных адносінах за часоў Ольгерда і Ягайлы.

Успамінаючы сёння пра гэтыя факты, мы імкнуліся адзначыць шчырыя сімпатыі польскага паэта да славянскіх літаратур. А калі возьмем яшчэ пад увагу і паэтычную творчасць Уладзіслава Сыракомлі, у якой знойдзем нямала доказаў яго павагі да рускай і украінскай літаратур, дык перад намі ва ўвесь рост стане прывабны вобраз творцы, блізкага людзям нашага часу, у які штораз шчыльней умацоўваюцца вузы дружбы паміж суседзямі - славянамі.

М. КАНАПАЦКІ

# ВАНЕВЫ ВОЙНЫ

К. ЯНКОЎСКІ

Удава Марыя Гаўрылюк пасля пятых — дзесятых судоў з зяцем Іванам Заброцкім прыціхла. Засталася жыць у кухні. Зрэшты, яна сама сабе вінавата — прадала падрэчанскія два гектары, якія меліся стацца пасагам для дачкі. Пайшлі слыхі, што за гэтыя грошы купіла ўсяго няцэлы гектар горшай зямлі ў Ігната, яе прыяцеля...

Тады бацька Івана вырашыў коратка:

— Едзь, сынок, на жончын пасаг.

Паваллокся Іван з жонкаю і малюткаю на руках у Катлы, у цёшчыну хату. Пры дапамозе суседзяў удалося Івану выцесніць цёшчу ў кухню. Усё заціхла.

Раптам цёшча пачынае старацца ў павеце дазволу на пабудову новай хаты, хлява, гумна.

— Знюхаліся!? — вохнулі суседзі і трывожна загудзелі. Ім было ясна, што будавацца задумаў зяць, а цёшча тут падстаўная асоба. Найбольш занепакоіўся Емяльян Гаўрылюк. Справа ў тым, што ён і Марыя Гаўрылюк супольна ўладаюць адным і тым жа пляцам расколеным папалам. Такіх уладальнікаў у Катлах многа.

Калісьці Емяльян быў вымушаны дазволіць Марыі паставіць гумно на сваёй дзялянцы.

— Бачыце, Марыіна гумно не магло стаяць бліжэй чым 12 метраў ад гумна суседа Гарбацэвіча. Такі закон... І што ж рабіць, раз шырыня адной дзялянкі ўсяго дзесяць метраў? Га?

Закон быў за Марыяй. Тым часам Іван возіць на пазагуменне дрэва на хату. На складзе брэша ўвязаны нанач сабака. Емяльян нецярпліва топчацца па панадворку. Часамі забяжыць да яго вёрткі Гарбацэвіч.

— Дзе ж ён змесціцца пазагуменню з усімі будынкамі ды яшчэ на дзесяці метрах?.. — бядуюць суседзі, і ў соты раз праклінаюць з'яўленне Івана ў Катлах. — Самі сабе вінаваты!

Пацяшэнне для суседзяў прыйшло з найменш спадзяванага боку: павятовы архітэктар забараніў Марыі Гаўрылюк будавацца пазагуменню. Вёска павінна забудоўвацца планавана, а не ліха ведае як.

Ясна, што такою адмовою пераняўся перад усім Іван. Ён паспеў ужо выдаць пару тысяч злотых на праект. Затым нямала каштавала пакупка хаты. Хаця, шчыра кажучы, дванаццаць тысяч злотых, якія ён заплаціў за яе, выклікаюць усмешку недаверу, што гэту хату набыла нібы сама Марыя Гаўрылюк (?).

— Пашто ёй хата, калі сваю мае?

Аднойчы прыехаў у вёску прадстаўнік павятовага архітэктара і спытаў у Гарбацэвіча, ці ён прадаў Марыі Гаўрылюк кавалак свайго пляца ад шашы?

— Не! — загарачыўся Гарбацэвіч. — Ніхто ў мяне не прасіў гэтага...

Выявілася, што Іван у цёшчыным праекце запланаваў размясціць хлеў і гумно на Гарбацэвічавай сядзібе, не пытаючы ў яго згоды. Дзіўна, праўда? Так, але ў даным выпадку Іванава хітрасць не мела іншага выйсця — на Емяльянавых загонах крыжуюцца высокавольтавыя лініі. Іван Заброцкі не згадзіўся з забаронаю архітэктара і адклікаўся да ваяводскіх улад, а сам пастанавіў не траціць часу. Аднаго ранку, у нядзелю, суседзі аж разявілі раты ад дзіва. Іван з бацькам і горбаю майстроў ды памочнікаў нагвалт ставілі хату. Момант выбралі адпаведны — нядзеля, усюды свята. Хтосьці пабег па солтыса. Солтыс прышоў (а як жа), прачытаў уголас Заброцкім архітэктараву забарону і сказаў разысціся. Сын з бацькам не перапужаліся солтысавай цырымоніі, адно падганялі майстроў, каб хутчэй рабілі. Емяльян заляментаваў, чаму закладаюць падрубы амаль на граніцы яго дзялянкі! Заброцкія прыгразілі яму:

— Угробім, заб'ем... Усё наша будзе, усё!...

Горш давялося Гарбацэвічу — стары Заброцкі пагнаўся за ім з сякераю. Але ад чаго ж ёсць у гаспадароў матацыклы: умомант прыперлі з Бель-

(Працяг на стар. 4)

вожных думак!.. Ці так ён дзейнічаў, як трэба, ці добра ўсё апланаваў? Здаецца, так. І ўсё ж... Ён сеў у ложку, пацягнуўся за сігарэтамі, але намаганнем волі прымусіў сябе зноў легчы, закрыць вочы...

А палове дванаццатай ён падходзіў да будынка контрразведкі. Затрымка была з намерам, каб скараціць час прабывання ў абверы, дзе маглі здарыцца непажаданыя сустрэчы.

Групенфюрэр Упіц быў у плашчы і шапцы, нервова хадзіў па кабінеце.

— Спазняецеся, — прабурчэў ён, непрыязна глянуўшы на Аскера.

Яны спусціліся, селі ў машыну. Вёў аўтамабіль Упіц, вёў па-майстэрску, на вялікай хуткасці.

— Не можа здарыцца, што калона спозніцца? — спытаў Аскер.

— Не можа. Яна ўжо на падыходзе.

— Але...

— Ніякіх «але». Гадзіну назад насустрач грузавікам выехаў мой чалавек. У яго машыне перадатчык.

*

Пасланцам Упіца быў штурмфюрэр Торп. Ён сустрэў калону ў двух дзесятках кіламетраў ад Карлслуста. Маленькі ўсюдыход Торпа прыціснуўся да кювета, а насустрач з выццём нясліся тупаносыя дызелі з высокімі драўлянымі бартамі. Яны ішлі паражняком. Торп налічыў трыццаць машын.



Прапусціўшы калону, Торп развярнуўся і паімчаўся за ёй. Ён хутка дагнаў грузавікі, параўнаўся з галаўным дызелем і зрабіў шафёру знак спыніцца. Той паслухаўся. Усюдыход праехаў крыху наперад і таксама стаў.

Торп вылез, падыйшоў да грузавіка. Побач з вадзіцелем сядзеў пажылы маёр.

—Што за машыны? — спытаў яго Торп, прыкрануўшыся рукой да капялюша. — Куды ідуць?

— А па якому праву вы задаеце пытанне? — у сваю чаргу спытаў маёр.

Торп выняў пасведчанне. Рыбін — гэта быў ён — узяў яго, асвяціў ліхтарыкам, праглядзеў і вярнуў.

— Усё ў парадку, — сказаў ён. — Мы калона спецыяльнага прызначэння. Едзем у Карлслуст за нейкім важным грузам. Пасланы ў распараджэнне...

— Групенфюрэра Упіца?

Яго самога.

— Рухайцеся за мной. Я павінен правадзіць вас да месца пагрузкі.

— Добра. — Рыбін сунуў у рот сігарэту, працягнуў партсігар Торпу. — Частуйцеся, штурмфюрэр.

— Дзякую.

Торп узяў сігарэту. Закурылі.

— Вы адзін у машыне? — спытаў Рыбін.

— А што?

— Мо' возьмеце мяне да сябе? Надаела трэсціся ў гэтай скрыні.

— Калі ласка! — Торп пагасіў сігарэту, пайшоў да ўсюдыхода.



Рыбін вылез, агледзеў калону. Яна ўжо падцягнулася і выстраілася.

— Гаўптман Біндэр, — паклікаў ён.

Паказаўся афіцэр. Прытрымліваючы рукой кабуру пісталета, ён бег да Рыбіна. Гэта быў Перцаў.

— Паедзеце ў галоўнай машыне, — сказаў яму Рыбін і шапнуў: — Кіламетраў праз пяць затрымаеце калону і выклічаце мяне.

— Слухаюся!

Рыбін пайшоў да Торпа. Перцаў улез у кабіну галаўнога грузавіка.

Ва ўсюдыходзе першыя некалькі мінут ехалі моўчкі. Рыбін назіраў за тым, як Торп, вядучы машыну левай рукой, правай уключыў перадатчык, настроіўся і перадаў у мікрафон паведамленне аб тым, што калона сустрэта.

Палкоўнік ведаў Торпа па данясеннях Керымава. У адным з апошніх паведамленняў сцвярджалася, што Торп злоўлены і надзейна ізаляваны. А вось цяпер гітлеравец, жывы і здаровы, сядзіць побач з Рыбіным. Што ж здарылася? Дзе Керымаў? Ці ўсё з ім шчасліва? Да апошняга часу ў гэтым можна было не сумнявацца — Рыбін ведаў, што перададзенае а палове дзесятай вечара паведамленне аб аўтамабільнай калоне атрымаў менавіта ён, Керымаў. Ну, а цяпер? Дык з тых пор прайшло звыш дзвюх гадзін! І яшчэ: Керымаў знаходзіцца ля тайніка. Значыць, разам з Упіцам. Але ж і Торп адтуль. Як жа яны не сустрэліся? Або сустрэліся?.. Апякла думка: раптам Керымаў правалены, і заду-

(Працяг на стар. 4)

# ВАНЕВЫ ВОЙНЫ

(Працяг са стар. 3)

ска міліцыянта, і Заброцкія з шайкаю майстроў зніклі, бы нячыстыя духі.

Застаўся толькі сабака на ланцугу.

Настала жніво. У разгары работы народ прызабыў пра сварлівых Гаўрылюкоў, кожны заняты ўласнымі турботамі — збожжа сохла на вачах. Сёй-той паціскаў плячыма, гледзячы, як зяць Марыі раскладаецца на пляцы з абарогамі. усё роўна бы намерыўся разжыцца на гумно пад зіму?.. Навіна выбухла нечакана: Іван замахеў перад суседавымі насамі дазволам ваяводскіх улад на ягоную забудову!

— Ого, Іван перамог архітэктара!

— Пэўна, сваяка важнага ў Беластоку мае?

На Заброцкага паглядзелі паважней, з цікавасцю. Каго ж там ён можа мець?

Бельскі архітэктар, прачытаўшы ваяводскі дазвол, сваім вачам не верыў:

— Гэта непаразуменне! Па-першае, на катлоўскіх пляцах ад шашы не прадбачана будаўніцтва; па-другое, ваш праект нежыццёвы...

А, па - трэцяе, наколькі аўтару вядома, беластоцкія ўлады выдалі дазвол, не пабыўшы на месцы. Прытым, зроблена ўсё галаслоўна, яўна парушаючы планы вясковага будаўніцтва. Выходзіць, будуйся хто дзе хоча'?

Не туды дарога!

Бельскія ўлады цвёрда абяцаюць, што ніколі не быць тут хаце Заброцкага, бо ўпусціўшы аднаго на забароненае месца, не будзе падставы не пускаць і другіх...

— Па ліха тады апрацоўваць планы забудовы вёсак?

*

Калі я прыехаў у Катлы, Іван Заброцкі якраз разгарнуў наступленне, выкарыстоўваючы неразбярыху паміж бельскімі і беластоцкімі ўладамі. У астатнюю нядзелю пабудаваў яшчэ адзін прыбытак: шопу на вугаль, вялку і іншыя прылады. Такі ўжо ў яго метад: будаваць у нядзелі. Святамі нат' міліцыя неахвотна едзе. Вядома, людзям хочацца адпачыць.

Іду да яго. Цёшчына хаціна складаецца з пакоя, кухні і сенцаў. Ён з сям'ёю жыве ў пакоі, прымураваўшы да печы вестфальку, сенцы супольныя. Гавару з ім. Жонка маўчыць. Ён лжэ, не маргнуўшы вокам. Значыць, усё гэта будуе там для каханай цёшчы, каб дабіцца міру і спакою.

— Хопіць жартаваць, пане Заброцкі! За пакой з кухняю для сябе вы будуеце двухпакаёвую хату для цёшчы, якая яшчэ вінавата вам жончын пасаг?!

Бой выйгралі Заброцкія, а не Марыя Гаўрылюк.

Іван дабротна ўсміхаецца і ціхне. Ляпей прамаўчаць выпыткі рэдакцыйнага госця, а калі ўжо нельга змаўчаць, дык абмежавацца толькі словамі выкамбінаванымі ў пісьме да ваяводскіх улад, не болей.

Цяжкае маўчанне ў брудным хатнім прытулку, дзе нават кроку нельга ступіць свабодна, каб не зачапіцца аб штосці. Цяжка слухаць плач маленькай дачкі і нервовы крык яе галавусага бацькі, які аказваецца

(Працяг на стар 7)



Сакратар ГРН Валілы-станцыя Валянціна Клепач.

# АННА ГАБРЫКЕВІЧ падтрымлівае першая

У першай зале ГРН Валілы-станцыя ў кутку вялікі тэлевізар маркі «Клейнот». Нічога незвычайнага, карціна ўсё больш штодзённая. Ды не без прычыны гэты тэлевізар заслужыў нашай асаблівай ўвагі. Ён завандраваў сюды як падарунак (за 11.500 зл.) за выкананне гадавога плана збору на грамадскі фонд будовы школ Тысячагоддзя за 1963 г. А выкананы гэты план быў у ГРН Валілы-станцыя ўжо 15 лютага, за паўтара толькі месяца. Не можна ўстрымацца ад слоў пахвалы і прызнання як усім грамадзянам Валілы-станцыя, так і самой ГРН.

У гэты раннеасенні дзень і вечар дня мы мелі магчымасць пазнаёміцца і з працаўнікамі ГРН і з людзьмі вёскі.

Надта прыемна было за сакратарскім сталом спаткаць жанчыну — Валянціну Клепач. Сярод нас, прыехаўшых, таксама была жанчына, і несумненна гэты факт меў свой уплыў на настрой. Але што іншае таксама. Валянціна Клепач — добры сакратар, уражлівы і стаўранны. Дзве апошнія прыкметы, так характэрныя для жанчыны, напэўна фармуюць першую.

Валянціна Клепач сакратаром працуе ад 1958 года.

Вячэрні сход жыхароў вёскі вяла сакратар.

— Нашы дзеці вучацца ў школе, якая памяшчаецца ў двух прыватных будынках у адлегласці адзін ад другога 500 метраў. За арэнду гэтых хат мы плацім 800 злотых у месяц. Ёсць стары апушчаны будынак дзяржаўнага фонду зямлі, у лепшым месцы. Яго адрамантаваць на школу — было б вельмі добра. І для гэтага наш сённяшні сход. Усё залежыць ад нас, калі кожны згодзіцца даць уклад працы ці матэрыялаў, ці нават грошай, тады наша павятовая рада паможа другой палавінай. Даложыць 50%. Тэлевізар, які ГРН атрымала, мы таксама аддамо новай школе. Ці згодны? Што на гэта?

Людзі сядзяць у неаслоненым святле электрычнай лямпачкі. Сядзяць і стаяць, аж у сенцах. Тыповая вясковая карціна: спераду, бліжэй да стала, мужчыны, ззаду жанчыны. Думаю, што нарушыла я адвечны парадак тутэйшы — сяджу таксама спераду, сярод мужчын. Але... але Валянціна Клепач таксама тут, спераду, усё ў парадку. Па сутнасці ў справе асноўнай гэта малаважнае. А аб абычаях вёскі не збіраемся зараз пісаць.

Пры тым наш зрок і слых кіруем у бок жанчын, як раз туды, назад. Адна з іх першая адзываецца пасля слоў сакратара. Адзываецца станоўча: трэба пачынаць і рабіць. «Адважная», — назвала яе ў нейкі момант сакратар. Завецца Анна Габрыкевіч. Вяла гурток вясковых гаспадынь. Яе цяпер выбіраюць у камітэт будовы школы.

Так, даходзіць да выбару камітэта. Пасля дыскусіі, у якой была падтрымана прапанова сакратара. Наогул, цэлы сход у Валілах - станцыі быў нядоўгі (дзякуючы канкрэтнай паставе сакратара) і лішніх слоў было сказана нямнога.

А людзей мы пазналі такіх: (ужо не паўтараю Анны Габрыкевіч) Ян Дэрынг — сімпатычны надзвычай ужо з самога выгляду чалавек, жвавы і рухавы, хоць адным толькі солтысам ён ужо 18 год без перапынку, пры тым радны ГРН і сакратар ПОП у вёсцы.

Міхал Буслоўскі, стаtable ляр, сказаў, што бясплатна будзе працаваць пры будове школы (звычайна за кваліфікаваную працу плаціцца).

Віктар Барада — дасць бясплатна матэрыял на падваліны да школы.

А вось ён, валілаўскі грамадскі камітэт будовы школы, выбраны ў той прыгожы дзень, правільней вечар, на сходзе ў ГРН (падаю у такой чарзе, як тыпавалася на сходзе): Вера Тарасевіч, Анна Габрыкевіч, Сяргей Дэрынг, Віктар Барада, Аркадзь Кулеша, Міхал Каранкевіч, Ян Дэрынг, Уладзіслаў Рыбінскі, Мікалай Вайцешук.

**Вера Леўчук**
фота **Ул. Паўлючук**

# ТРЫ СЯБРОЎКІ

Сустракаюцца яны рэдка. Бо і працуюць у розных паветах. Але калі сустрэнуцца на нейкай нарадзе, канферэнцыі ці курсе, дык абавязкова пачнуць дыскусію. У настаўнікаў (дадайма — маладых настаўнікаў) ёсць аб чым пагаварыць. Асабліва тады, калі ў руках паявіцца новы, свежанькі нумар роднага часопіса. У такі час варта абмяняцца сваімі поглядамі на тую ці іншую праблему закранутую «Нівай».

На здымку (злева) настаўніцы Зося Бурак з Зубава, Бельскага павета; Надзя Бараноўская з Навасад, Беластоцкага павета, і Ольга Рашчэнка з Рэпіскаў, Гайнаўскага павета.

(вб)

Фота **В. Рудчык**



(Працяг са стар. 3).

ма з эвакуацыяй архіваў у другое сховішча падстроена абверам з мэтай выманіць і знішчыць як найбольш савецкіх разведчыкаў!

Падазрэнні ўзмоцніліся, калі палкоўнік пачаў аналізаваць паводзіны Торпа. Магло ж быць так, што Торп згадзіўся ўзяць яго ў машыну і пры ім перадаваў паведамленне аб калоне, каб усыпіць яго чуйнасць. Адначасова ён ізаляваў Рыбіна ад іншых дэсантнікаў!..

Закончыўшы перадачу, Торп зняў навушнікі, палез у кішэню за сігарэтамі. Рыбін хутчэй працягнуў яму свой партсігар.

— Прашу, — ветліва сказаў ён. — За сігарэты ручаюся, прывезены з Турцыі.

— Я ўжо паспеў ацаніць іх. — Торп кіўнуў, узяў сігарэту.

— Вы паедзеце з грузам? — спытаў Рыбін, чыркнуўшы запалкай і даючы спадарожніку прыкурыць.

— Наўрад. У мяне ёсць важнейшыя справы.

Ззаду пачуліся настойлівыя гудкі. Рыбін павярнуўся. З галоўнага грузавіка рабілі знакі.

— Спыніце, — сказаў Рыбін. — Там нешта здарылася.

Усюдыход прытармазіў. Спыніўся і ішоўшы следам дызель. Да Рыбіна падбег салдат і далажыў, што ў адной з машын спусціў скат.

— Трэба ехаць. — Торп з непакоем паглядзеў на гадзіннік. — А грузавік няхай даганяе.

264

— Не, — засупярэчыў Рыбін. — У мяне строгі загад — даставіць усю калону да апошняй машыны. Схаджу, прыспешу рамонт.

— Ідзіце, — прабурчэў Торп.

Сустрэўшыся з Перцавым, палкоўнік Рыбін расказаў аб Торпе, аб сваіх падазрэннях.

— Торп? — трывожна перапытаў Перцаў. — Не памыляецеся, таварыш палкоўнік?

— Я бачыў яго пасведчанне.

— Трэба паспець папярэдзіць Керымава. — Перцаў задумаўся. — Зможаце затрымаць усюдыход непадалёку ад месца, дзе нас будуць сустракаць?

— Надоўга? — спытаў Рыбін.

— Як удасца. Хоць на паўмінуты.

— Змагу.

— Тады я ўсё уладжу. — Перцаў пачаў тлумачыць: — Грузавікі абыйдуць усюдыход і...

Пачуліся назойлівыя гукі аўтамабіля Торпа.

— Зразумеў. — Рыбін палажыў руку на плячо Перцава. — Дзейнічайце. А мы ўсе будзем паблізу.

— Ясна.

— Па машынах!

(Працяг за тыдзень)

265

# КОНКУРС

## на найлепшае выкананне беларускіх песень

Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства паведамляе, што конкурс на найлепшае выкананне беларускіх песень адбудзецца 5,12 і 19 кастрычніка г.г. у будынку Таварыства, Беласток, вул. Варшаўская 11. Пачатак у 18 гадзін.

У сувязі з тым, што немагчыма праслухаць усіх удзельнікаў конкурсу ў адзін дзень, будуць яны падзелены на групы. Кожны з удзельнікаў будзе мець вызначаны дзень свайго выступлення, аб якім Таварыства паведаміць пісьмом.

Удзел у конкурсе прымуць толькі тыя асобы, якія прыслалі заявы да 31 жніўня. Новых заяў Таварыства разглядаць не будзе. Тыя асобы, якія злажылі заявы да 31 жніўня і не атрымаюць паведамленняў, павінны прыехаць на конкурс на дзень 19 кастрычніка.

## БЕЗ РЭХА

Лабараторыя ў Інстытуце Тэлекамунікацыі ў Стакгольме (Швецыя). Лабараторыя мае найбольшы ў Еўропе г.зв. пакой без рэха. Сцены яго маюць 4000 спецыяльных пластмасава - металёвых плітак, якія паглынаюць рэха. Паверхня пакоя 1100 м². Служыць ён для доследаў над радыёвымі мікрафонамі.

(вл)





Кадр з фільма.

## Ганебнае „паразумленне”

Вядомы італьянскі рэжысёр і акцёр Віторыо дэ Сіка выехаў у Гамбург для правядзення здымак некалькіх сцэн да антыгітлераўскага фільма. Аднак сустрэўся ён з візглівымі атакамі заходненямецкіх газет. Вярнуўшыся ў Італію, рэжысёр Сіка сказаў наконт Заходняй Германіі:

— Гэта страшная краіна! Усё яшчэ жывая тут ганебная мінуўшчына, усё яшчэ гітлерызм атручвае душу нямецкага народа. Калі б вы толькі пабачылі твары нямецкіх статыстаў, нанятых пры фільмаванні адной са сцэн, у час якой была выкарыстана наіграная прамова Гітлера ў сувязі з заняццем нямецкімі войскамі аўстрыйскай сталіцы Вены... Твары статыстаў былі бледнымі, у іх вачах адмалёўваўся смутак па мінуўшчыне і адначасова гордасць за такую мінуўшчыну. Некаторыя з іх нават заціскалі кулакі і дрыжэлі. Голас Гітлера прынялі яны зноў як кліч — кліч джунглі»...

Можна здагадацца, як зарэагавалі на такія словы заходненямецкія газеты. На Віторыо дэ Сіка не пакінулі сухой ніткі...

Праз пэўны час прэсбюлетэнь адэнауэраўскай партыі ўрачыста паведаміў пра германа-італьянскае «паразумленне» аб спыненні выпуску ў Італіі «антыгерманскіх» (чытай антыгітлераўскіх) кінафільмаў. І так пасля «Генерала дэла Роверэ», пасля «Чатырох дзён Неапаля» і апошняга фільма «Палонныя з Альтоны» ў Італіі не паявіцца ўжо больш фільмаў пра гітлераўскія злачынствы

а-(ся)



## Прычоскі па-румынску

Як вам падабаецца гэтая прычоска? Праўда, вельмі прыгожая? На бліжэйшы сезон прапануюць яе румынскія модніцы.

а-вр

## Самалёт сутыкнуўся з арланам

Самалёт заходзіў на пасадку. Зроблен апошні разварот, і карабель выйшаў на прамую. Выпушчана шасі. І раптам пачуўся рэзкі ўдар, самалёт страсанула і ён шпарчэй, чым звычайна, пачаў зніжацца. Вялікае было здзіўленне лётчыкаў, калі яны выявілі ў крыле дзірку дыяметрам 70 на 30 сантыметраў. Зазірнулі ў прабоіну, там аказаліся... пер'і птушкі, рыбіныя косці і луска. У паветры адбылася сутычка з арланам, які нёс вялізнага сазана.

Сутычка самалётаў з птушкамі здараецца нярэдка. З арланам жа, птушкай моцнай і даволі асцярожнай, сустрэча ў паветры — рэдкі выпадак.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# КАНТРАБАНДА

У напрамку Сінгапура плыве шхуна, гружаная каўчуком. Перапыняе яе ваенны карабель і падае сігнал «машына стоп!» Шхуна, аднак, не затрымліваецца. Гучыць перасцерагальны выстрал. На палубе шхуны рух. На мачту ўзнімаецца флаг з велізарным надпісам: «10.000 долараў». Раздаецца другі выстрал. Флаг мамантальна зняты. На яго месца паяўляецца новы флаг. На ім ужо надпіс: «20.000 долараў». Трэцяга выстралу не чуваць. Ад шхуны імчыць маторка, прычальвае да борта карабля. Кароткая размова, узаемныя поціскі рук, і пухлы ад долараў канверт пераходзіць з далоні ў далонь. Шхуна паплыла далей.

Долар — гэта сіла! Асабліва цяпер, калі вартасць інданезійскага рупія падае з дня на дзень; хутка растуць цэны, але зарплаты застаюцца такімі самымі. Жыць жа з чагосьці трэба... Інданезійскія таможнікі атрымоўваюць па закону палавіну тавараў перахопленай кантрабанды. Вельмі многа! Дзеляцца здабычаю паміж сабою, справядліва, паводле... службовага чыну. За 1962 год перахоплена кантрабанды 1010 тон вартасцю 230 тысяч долараў. Здавалася б, глупства.

Дык чаму ж штораз распісваюцца аб кантрабандзе газеты, стогнуць эканамісты, грымяць аб ёй у сваіх прамовах вядомыя палітыкі?

Міністэрства сельскай гаспадаркі ў Джакарце паведамляе, што кожны год удаецца кантрабандзе вывезці 30 тысяч тон каўчуку — гэтага асноўнага гандлёвага прадукту Інданезіі. Тым часам першы сакратар Камуністычнай партыі Інданезіі Аідзіт выявіў, што фактычна выкрадаюць каўчуку ў пяць разоў больш! Значыць, каля 150 тысяч тон у год! А амерыканскі сенатар і выдатны эканаміст Хьюмпрэй ablічвае інданезійскую кантрабанду на 300 мільёнаў долараў у год!!! У большасці гэта, як вядома, каўчук... У чым жа прычыны шалёнай розніцы паміж 230.000 долараў злоўленай і 300.000.000 долараў фактычнай кантрабанды!?

Вось перад намі геаграфічная карта Інданезіі. Процьма астравоў і астраўкоў; пралівах, залівах і каналаў, якія размешчаны на прасторы, роўнай тэрыторыі Еўропы. Нізіны балоцістых рэк і раі прыбярэжных астравочкаў немагчыма пастаянна кантраляваць, што спрыяе кантрабандыстам. Тым не менш, многія лічаць, што практычна няма кантрабанды. Няма! Тых некалькіх галадранцаў, якія былі злоўлены з пару тонамі каўчуку, з'яўляюцца зернем пяску ў параўнанні да магутнага экспарту заграніцу... Іншая справа, што ёсць некаторыя прычыны, з-за якіх не кожны загранічны транспарт праходзіць таможны кантроль (!?)

Шчыра кажучы, караблі хутка вылавілі б і рэшту кантрабандыстаў. Вядомы іх сховішчы, вядомы іх намеры. Ды ўсё гэта дробныя плоткі, не маючыя істотнага значэння ў сапраўды вялікай кантрабандзе, якая вынішчае Інданезію. Дзе вялікія кантрабандысты? Напрыклад, у Медане. Таксама вядомы іх прозвішчы, вядомы іх метады, вядомы іх сувязі. Чаму нічога не зроблена, каб ліквідаваць іх? Трэба ведаць, што Медан — гэта сядзіба вайсковага камандвання на востраве Суматра. Урэшце, трэба ведаць і тое, што інданезійскія вайсковыя ўлады мала лічацца з цывільнай адміністрацыяй, а найчасцей увогуле не лічацца з ёю. Перад усім на Суматры, дзе ад некаторага часу існуе асаднае становішча ў сувязі з правакацыямі Англіі, якая ні за што не хоча адмовіцца ад рэштак сваіх калоній у гэтым раёне свету. Выкарыстоўваючы напружаную сітуацыю, пэўныя колы вышэйшага інданезійскага афіцэрства стараюцца збіць сабе капіталы на кантрабандзе. Пакуль што цэнтральныя ўлады вымушаны прыкрываць вочы на іх злачынную дзейнасць, каб унікнуць міжусобнай шуміхі напярэдадні англа - інданезійскага крызісу.

Дырэктар Цэнтральнага таможнага ўпраўлення ў Джакарце пан Сухарнома часта знікае «па важных і неадкладных справах», як толькі прыходзіць да яго загранічны карэспандэнт. Прадчувае, што запытаюць яго пра няясную розніцу між трымастамі мільёнамі долараў з рапарта Хьюмпрэя і скромнымі двумастамі тысячамі долараў у справаздачах таможнікаў. Што ж ён можа сказаць? Што ў спецыфічных інданезійскіх умовах трэба бачыць розніцу паміж праследваннем кантрабанды вялікіх фінансістаў і палітыкаў? Што існуе гіганцкі «неафіцыйны экспарт»?!

Як доўга можна цярпець уплывовыя банды, якія разам з сінгапурска - англійскімі камбінатарамі раскрадаюць багацці беднай Інданезіі?

Цяжка спадзявацца яснага адказу на гэтыя пытанні. Раз падкупнасць з'яўляецца тут сродкам палітычных розыгрышаў і торгаў, не паможа ані сто, ані тысяча палымяных прамоў інданезійскіх дзеячоў, якія крычаць аб фактах кантрабанды, але старанна змоўчваюць прычыны!

а-ся

## ПАРАДЫ

### КРУГІ ПАД ВАЧЫМА

Цёмныя кругі пад вачыма часцей за ўсё бываюць у выніку некаторых зрушэнняў у арганізме — захворванняў яечнікаў, нырак, страўніка і печані, launch ператамлення або недасыпання. Хворыя на хранічныя запоры таксама часта маюць кругі пад вачыма. Часам яны могуць паявіцца і ў выніку адсутнасці падскурнага слою тлушчу або надзвычай тонкай скуры, праз якую відаць крываносныя сасуды. Калі вельмі моцныя кругі пад вачыма, звярніцеся да ўрача. Апрача таго, мы рэкамендуем наступнае: пазбягайце тлустай ежы, не злоўжывайце чаем, кавай, вострымі стравамі і алкаголем, ешце як мага больш гароднiны, спіце не менш 8—10 гадзін у суткі, кожную раніцу нашча выпівайце шклянку адвару рамонку без цукру, рэгулярна рабіце кампрэсы на вочы з халоднага адвару рамонку, свежага малака або адвару пятрушкі.




З кожным годам мяняе свой выгляд беларуская вёска, усё больш на яе палях цяжкую фізічную працу замяняе сучасная тэхніка.

На здымку: У калгасе «Брэсцкі» Брэсцкай вобласці праходзіць выпрабаванне новы бульбаўборачны камбайн «КГП—2». Машына аддзяляе бульбу ад зямлі і па транспарцёру грузіць яе ў аўтамашыны.



